I—1912. Іюня 3-ая кніжка.




**ПЕРШЫ БЕЛАРУСКІ МЕСЯЧНІК СЕЛЬСКАЙ ГАСПАДАРКІ.**

Падпісная цэна на 1 год **1** р. **20** кап. на 6 месяцоу **60** кап., за перамену адрэсу **20** кап. Можна падпісацца і аткрыткай, просячы, каб падпісную цэну налажылі на першы высланы нумэр. Рэдакція: **Вільня Завальная 7.**

Абвесткі працоунікоу, шукаючых мейсц у гаспадарках, друкуюцца за 2 маркі па 7 кап., толькі абвестка павінна мецьня больш 20 слоу.

Цэна абвестак за строчку пэтіту у поукалонны: перад тэкстам **40** к., за тэкстам **20** к. За разсылку рэклям пры месячніку вагай да 2 лотоу **7** руб. ад тысячы

**Цэна асобнага нумэру 8 кап., з дастаукай да хаты 10 кап.**

# Абвесткі.

Выпісываючы на абвестках просім пісаць, што прачыталі яе у газ. „Саха“.

## Зыгмунт Нагродзкі Вільня Завальная вуліца № 11.

### Праудзівые штырыйскіе касы „Певень і курыца“.

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| даўжыня | 6 | $6\frac{1}{2}$ | 7 | $7\frac{1}{2}$ | 8 | рукъ |
| | $23\frac{1}{2}$ | $25\frac{1}{2}$ | $27\frac{1}{2}$ | $29\frac{1}{2}$ | $31\frac{1}{2}$ | цалёў |
| цэна | 50 | 55 | 60 | 65 | 70 | кап. |

### Garantie. Клепаные „Каса“.

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| даўжыня | 6 | $6\frac{1}{2}$ | 7 | $7\frac{1}{2}$ | 8 | рук |
| | $23\frac{1}{2}$ | $25\frac{1}{2}$ | $27\frac{1}{2}$ | $29\frac{1}{2}$ | $31\frac{1}{2}$ | цалёў |
| цэна | 60 | 65 | 70 | 75 | 80 | кап. |

### TURUL. Клепаные „Туруль“.

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| даўжыня | 6 | $6\frac{1}{2}$ | 7 | $7\frac{1}{2}$ | 8 | рук |
| | $23\frac{1}{2}$ | $25\frac{1}{2}$ | $27\frac{1}{2}$ | $29\frac{1}{2}$ | $31\frac{1}{2}$ | цалёў |
| цэна | 70 | 75 | 80 | 85 | 90 | кап. |

Машынкі да клепаньня кос, малаткі і бабкі англіцкіе, штырыйскіе, банькі с трубамі, брускі.

Годъ I—1912. Іюнь 3-я кніжка.

САХА ПЕРШЫ БЕЛАРУСКІ МЕСЯЧНІК СЕЛЬСКАЙ ГАСПАДАРКІ.



# Папар.

„Сей хоць у попел, абы на папары" кажуць нашы зямляробы. І запраўды папар заменяе крыху унаважываньне.

Папар дае час мэханічна вырабіць зямлю, прыгатовіць яе так, каб карэньня расьлін лепей за ўсё развіваліся.

Перэварачываючы больш глыбокіе слаі зямлі, мы стыкаем з вадой і паветрэм розные часцінкі зямлі, ат чаго некаторые з іх распускаюцца, перэменяюцца і становяцца годнымі на хорч для расьлін.

Вырабляючы папар мы, бытцым, мёртвы, закапаны у зямлі капітал, пушчаем у зварот, каторы посьле, вертаецца з прыбыткам зярном і саломай. Апрача та вырабляючы папар мы зніштожываем вельмі многа зеліва, каторае засушае каліўцы збожжа і як бытцым крадуць капітал, назначэны для нашых таварышоў-збажын.

У нас, дзе лета гэткае кароткае, а гною мала — папару блізка што замяніць нічым нельга, і дзеля гэтаго на акуратную вырабку яго трэба зьвярнуць асабліўую увагу, каб не рабіць тых абмылак, якіе зазвычай робяць старасьвецкіе гаспадары.

Лепей за ўсё пачынаць выраблядь папар ешчэ з восені, асабліва на цяжкіх глінястых землях. Зааранная на зіму земля перамерзне, а мароз (ад замерзаньня вады), лепей разрыхліць зямлю, чым самая лепшая ўспашка і баранаваньне. Апрача таго шмат якіе з вывернутых на верх карэньнёў і зернят рознаго зеліва прападуць ад марозу і ня будуць глушыць дабра. Але, калі поле не ўспаханае з восені, то яго трэба ўспахаць вясной, як можна раней. Дзеля таго, што с самай вясны трэба сеяць ярыну, то с папарам можна пачэкаць да того часу, калі мені болі з ярыной управімся. Трэба старацца кончыць успашку папару у маі, дзеля таго, што чым раней заарем поле, тым раней аткрыем яго для вады і паветра, без каторых, ня могуць добра распусціцца цьвёрдые часьці грунту, у форму годную для корму расьлінам.

Першы раз трэба араць не глыбока. Тагды лягчэй перэгнівае зялёны дзірван папару і дробнае насеньне зела лёгка усходзіць і посьле без труда знішчожываецца бараной.

Першая ўспашка самая важная, ад яе залежыць ураджай у будучыне. Трэба падбіраць пагоду для араньня і баранаваньня, ня менш, як для сушкі сена. Няможна араць лішне сухой зямлі, асабліва гліны і падглінкоў, бо тады земля лама-

ецца глыбамі, пыліцца і ешчэ больш высыхае; да таго сухую зямлю вельмі цяжка заорываць і лішне мучацца і коні і людзі. Мокрая земля зліваецца і заплывае і не дапускае паветра і вады дзеля чаго глаўным чынам і вырабляецца земля.

Калі папар падсеваецца лубінам, то трэба яго заараць у першай палавіне мая, каб лубін больш разросься.

Найбольшая абмылка нашай выробкі папару гэто тое, што яго не ў час баранують. Да Яна заараў, да Петра пабаранаваў, — а часам у гэту пару больш шкоды чым карысьці можэ прынясьці баранаваньне. На сухіх землях баранаваць трэба раней, на мокрых пазьней, але тады, калі пачынае ўсхадзіць *пырнік*, які тады найлягчэй зніштожыць. На зліваючыхся глінах, ня можна даваць зямлі усохнуцца ў глыбы, а баранаваць хоцьбы і ў сьлед за плугам, тады самая цяжкая гліна лёгка разсыпаецца пад зубьямі барон. Горш за ўсё трэба высцерэгацца баранаваць ральлю у дождж, ці па мокрай зямле. Тады земля з верху заплывае і цьвярдзеець. Гэткая земля лёгка высыхае, і не дапускаець паветра, без катораго земля ня можэ зрабіцца прыгоднай для ўзросту расьлін. Лепей папар баранаваць не зразу, а па колькі разоў паўтараць баранаваньне, дзеля таго, што за кожным разам часць зеліва узойдзе і мы яго зніштожым бараной. Апрача таго трэба баранаваць папар посьле кожнаго вялікаго дожджу, каб разбіць кару і даць доступ паветру.

Баранаваць трэба жалезнымі баронамі, дзе цьвярдзей і больш дзірвана, там трэба пускаць цяжэйшые бароны—лепей параконные. Вельмі задзірванеўшае поле карысна парэзаць папярок барозн талерачнымі баронамі, каторые парэжуць дзірван на кавалкі, і гэтые кавалкі пасьля лёгка разтрасе звычайная барана.

Посьле першаго баранаваньня, вельмі карысна пускаць амэрыканскіе спружыновые бароны, каторые дужа добра разрыхляюць зямлю і выцягіваюць карэньня пырніка на верх. На цяжкіх і задзірванеўшых землях пад жыта і ўсякіх землях пад пшаніцу трэба араць тры разы. Тады другі раз трэба араць, як можна глыбей, каб закапаць зяло, так каб яно ня вылезло і разрыхлолася як найбольш зямлі, бо тады яна даець і больш корму расьлінам. Апошні раз перэд сяўбой трэба араць на сярэднюю глыбіню, але разлічыць так, каб яна вышла на 3 — 4 тыдні да пасеву жыта.

Посьле кожнай оркі земля аседаець, а карэньня жыта вельмі баяцца аседаньня зямлі, каторая абрывае іх і прымушае хварэць маладую расьліну.

У нас зазвычай сеюць жыта пад барану, але баранаваць жыта трэба асьцярожна і не глыбока, дзеля таго, што жыта глыбокай засыпкі не выносіць. На мокрых мейсцах карысна поле ляшыць, каб лішніца вады не застаівалася.

**Шэры.**

# Зборка сена.

Пагода стаіць добрая, сонцэ смаліць, сенажаць красуе і пах з яго ідзе, а наш селянін чухаецца за вухом і кажэ: ніхай ешчэ падрасьце: цяпер лішне ўжо сыхаець. Вось, посьле, пад восень, сколькі скашу толкі і награблю.

Але саўсім напрасна гэтак робяць нашы селяне. Яны ня хочуць ведаць таго, што яны больш трацяць, чым выігрываюць, позна косячы свае сенажаці.

Вучоные земляробы даўным даўно перэканаліся, што старая трава, гэта тое самае, што добрая салома. Ніякай карысьці з яе німа. Лепей даць скацінцы 10 ф. добрага, маладога сена, чым 20 ф. старога. Старая трава, яна лыкаватая і пажыўные яе часьці цяжка перэтраўлівае жывот жывёлы. Маладое сена ахватней есць скаціна і лягчэй перэтраўляецца яно у жываце, чым старое. І дзеля гэтаго ніколі ня трэба ждаць пакуль трава пастарэе, а касіць у часе самаго красаваньня.

У нас, дзе скаціна пасецца глаўным чынам на папары, посьле таго, як зааруць папары для скаціны настае час праўдзівай галадоўкі—і калі да гэтаго часу зьбяром сена с пожэнь, то аткрыецца пасьбішчэ с чаго не малая выгода, а карысьць з маладога сена будзе у колькі разоў большая, як са старога. Калі скосім сена, то трэба старацца, каб яго добра сабраць.

Уселякі дождж, вільгаць і нават ранічная раса—вымывае з сена пажыўные солі і пакідае нікому непатрэбную лыкаватую часць. Дзеля гэтаго для касьбы трэба падабраць пагоду, а глаўнае старацца, каб сена як найменш лежало у пракосах, а як найхушчэй старацца сабраць яго у копкі, ці кучкі.

У Прусіі ёсць гэткі закон, што той гаспадар, каторы не сабярэ сена у копкі таго дня калі скасіў, то плаціць штраф. А у нас сена ляжыць і пры добрай пагодзе колькі дзён, пакуль выбярэ час гаспадар яго „скаміць" (сабраць у копкі). Калі добрая пагода, то на другі дзень пасьля касьбы, трэба сена перэвярнуць граблямі і злажыць у маленькіе копкі. На другі дзень раскідаць іх і зноў злажыць у большые копкі.

Калі сена не спарыцца на сенажаці у копках, то яно можэ папсавацца у гумне: прагоркнець і пачне курыцца вясной. Асабліва добра прасушываць трэба маладое сена, старое не так баіцца недасушкі. Падсохшае сена больш баіцца дожджу, чым толькі што скошэнае—сырое. Дзеля гэтаго калі сена крыху прасохне, то трэба старацца, каб яго сабраць у копкі перэд дажджом. У копках сена менш прамокне і не так баіцца дожджу. Лепей менш накашываць, каб здужаць скідаць сена у копкі, калі пачнуць падымацца хмары. У дажджлівую пагоду трэба пасьпешаць са зборам сена, дзеля таго, што лепей не дасушыць сена, як згнаіць яго у пракосах.

Калі косім нашы не праўленые сенажаці, то з берэжку зазвычай на іх бывае добрае сена—мурог, а далей ідзе горшае

лено, а то і саўсім асака. Вось дзеля гэтаго грабючы трэба сарсаваць сена. Асаку асобна, мурог асобна, а то добра мурог дзятіць ешчэ на 2 гатункі і кожны гатунак класьці асобна.

Тады асаку даваць можна у трасянку скаціне, мурог даваць коням, а самае лепшае сена пакінуць да вясны, калі прыдзецца даць і целюкам і ацяліўшымся каровам і коням у часе найцяжэйшай веснавой работы.

Апрача сушкі ў пракосах ёсьць разные способы сушэньня у кольях, пірамідах і др., аме яны дорага абходзяцца, і гэтых способоў можна пробаваць тагды, калі ўвесь час стаіць непагадзь і сена і ў пракосах, і ў копках можэ пагніць. Апрача сухога у стагі складаюць і зялёнае сена, і посьле яго сціскаюць машынамі—але тагды атрымліваецца цьмянае, або гарэлае сена, ды і для дробных гаспадарак гэткіе способы лішне дорагі і многа амбарасу з гэтым.

Апрача кос, косяць сена ешчэ касаркамі, а ручные граблі заменяюць коннымі, каторые вельмі аблегчаюць работу, але для работы гэтымі машынамі трэба мець роўные сухіе сенажаці, гдзе-б не тапіліся коні, і каб не было на іх ні кустоў і каменьня. **С.**

---

# Раенне пчол.

Калі у вульлі, ці у лежні прыбудзе ужо столькі пчол, што ім у вульлі цесна, а гняздо поўна пчалінай чэрвы, пагода добрая, збор мёду усё пабольшываецца, то пчолы пачынаюць думаць аб раеньнюся, гэта значыць часьць, іх захочэ выляцець са старога вульля і абсесць на новым мейсцы.

Ды не заўсёды раеньне прыносіць карысьць. У нашым краю раеньне пчол прыпадае пад канец мая месяца і на чэрвень; чым раней рояцца, тым лепш, а посьле гэтаго ужо часу, трэба бараніць раіцца пчолам, бо не пасьпеюць панасіць сабе на зіму мёду.

Першы рой выходзіць са старой маткай і называецца „*першакомъ*“, вялікая была-б шкода калі-б ён уцёк, бо такі рой найбольш прынясе карысьці.

Калі-б пчолам першае раеньне не удалося, напр. страцілі матку, то яны варочаюцца На трэцьці дзень на нараджэньню маладухі калі яна ужо набярэ сіл пчолы ізноў вылетаюць і гэты рой празываецца „*пяюном першаком*“. Называецца першаком, бо ён першы, хоць вылетае ужо другі раз; „пяюном“, бо матка, вылупіўшыся пяе цянюсенькім галаском.

Каліб першаму рою ізноў не удалося абсесьці, дзе яму трэба; то ён вернецца да вульля, а за 8 — 10 дзён на ім выляціць ужо другі рой — „*другак*“.

У тры дні на другаку можэ выляцець ешчэ „*трэцяк*“ а па ім „чатвертак“ і т. д. Кожны пазнейшы рой шмат блажэйшы ад першых.

Можэ здарыцца і так, што калі маладому раю усё патурае, ён сваім чэрадом пачне раіцца, але пчэляр не павінен дапусьціць да гэтаго, бо больш будзе гоману, як праўдзівай карысьці.

Пазнаць пчол, што хочуць раіцца можна вось на чым:

1) Ужо пад канец мая перэстаюць цягнуць пчалінуую вашчыну, а будуюць толькі трутавую, каб было каму запладзіць маладых матак.

2) Закладаюць матачнікі і гадуюць новых матак.

3) Маладые пчолы саўсім перэстаюць працаваць, а старые так сама ня вельмі стараюцца, напачаты ужо нават воск кідаюць у сьмяцьцё на дно вульня.

4) У вульлі паменшаецца дзетак, бо матка менш усё і менш чэрыць, каб была лягчэйшай і спраўнейшей да лёту.

5) Часць пчолоў шукае сабе у старых вульлях, або у дзюплах новай кватэры, ідзе т. з. „іск.“.

6) За колькі ужо дзён перад ройкай пчолы вісяць гранкамі каля лёткі, нават паміж 9 і 11 гадзінай, тады калі іншые раі у гэтым часе носяць мёд сколькі мага.

7) Матка у гэткім вульлі пачынае вечэрамі і раніцамі цянюсенька пеяць, бутцым іграе на малой жалейцы.

Вось трэба заўчасу прыспасобіць вулей, райніцу, ці рэшэта, драбіну і пілку, вядро вады і сікаўку, або венік, курадымку і парахні, матачнік, рамку з наклеенымі пачаткамі. Сам вулей нацёршы мёдам, воскам, ці цытрынай, пастаў ужо на тое мейсцо, дзе ён мае стаяць заўсягды, — недзе далей ад таго, мейсца скуль выляцелі і ў халадку. Завешываецца у ім для слабаго рою 6, для сярэдняго 7 — 8, а для сільнаго 9 рамак.

Пчолы найчасьцей садзяцца дзе неьудзь на галінах дрэў. Вось, калі каля тваіх пчол німа дрэў, паўтыкай хаця нейкіе веткі, ці хварасціны. Раі са старой маткай выходзяць паміж 11 а 1 гадзінай і толькі у добрую пагоду, а з маладымі маткамі ды ешчэ не заплоджэнымі разна бывае часамі і а 8 гадзіне раніцай, а часамі і а 4 гадзіне вечэрам. Калі-б у той самы дзень колькі раёў хацело раіцца, то лепш ужо іх прытрымаць, пакуль ня ўходаеш аднаго. Прытрымаеш іх, або дмухаючы у лётку дымам, або спрысківаючы пчол вадой, або засіткаваўшы так лётку, каб маглі выхадзіць пчолы, а не магла выйсці матка, а без маткі і пчолы ня пойдуць. Можэ здарыцца, што вылятуць, і без маткі але напэўна ізноў назад вернуцца.

У самы дзень раеньня і малое дзіця пазнае, што пчолы хочуць раіцца; яны вылетаюць са звонам з вульля, летаюць каля яго, выклікаючы сваю матку. А калі матка выляціць, кідаюцца на сустрэчу і лятуць туды куды яна іх павядзе. Вось у гэтым часе пчэляр павінен узяць матачнік і падыйшоўшы

з боку пробаваць злавіць матку. Заплоджэная матка не зара не паднімаецца ляцець. а перш трохі палазіць па вульлі; тады то яе найхутчэй ухопіш і пасадзіш у матачнік. Прымацаваўшы пасьля з матачнікам разам яе у райніцы, або ў іншым якім начыньні, падымі у гару і нарыхтуй у тое мейсцо, дзе найбольш лётае пчол. Яны пачуўшы сваю матку хутка сабяруцца у райніцу. А каб ешчэ ахватней збіраліся устаў туды рамку з накленым сушам, або куском вузы. Калі іх ужо зьбярэцца большая часць, то спусьці райніцу і пастаў дзе небудзь блізка таго мейсца, то і рэшта прыляціць. Зачыні пасьля райніцу, а калі гэто якое іншае начыньне, то накрый з верху рэдкім палатном. Абсаджываць пчол можна або зараз, або ешчэ лепш вечэрам перэд захадам сонца. Цяпер — жэ пакуль што, пастаў іх дзе у цёмным, халаднаватым мейсцы.

Цяперака скажу, што рабіць калі-б маткі злавіць пры вылёце не удалося. Пчолы, як я ужо казаў, рэдка калі адразу уцекаюць, а перш збіраюцца у клубок дзе нібудзь на сучку. Дзе іх найбольш лётае, там яны і абсядуць; са старой маткай чэпляюцца нізка, а з маладымі маткамі або саўсім не садзяцца. або вельмі высока. Каб хутчэй збіраліся у грамаду і не так прытка ўцекалі, можна папырскаць іх вадой, або пасыпаць пяском. Сабраўшыхся ужо у грамаду пчол трэба агрэбаць у якое небудзь начыньне, найлепш у райніцу. Дзеля гэтаго, калі аселі на галіне, то страхані раптоўна у падстаўленнае начыньне, або, калі не шкада адрэж асьцярожна галіну пілкай і так разам с пчэламі занесек у вулей. А калі-б пачэпаліся не на галіне, а на самым камлі, то згортывай іх скрыдэлкам.

Усё гэта рабі спакойна, асьцярожна. а разам скорэнька, бо ня ведама, ці захочуць ждаць, яны могуць у кожны момэнт сарвацца, а тагды — бывай здароў! Здаралося мне не раз бачыць, як сабіраюць раі па вёсках. Божухна Ты мой! сколькі там гоману беганіні, летаніны! Чабохаюць на бедных пчолак ваду цэлымі вёдрамі, і глумяць беднеькіх ці мала, часамі і саму і матку затруць а пасьля дзівуюцца, што пчолы не назьбіралі мёду.

Калі хочэш абсадзіць, то вазьмі райніцу с пчоламі і разсунуўшы рамкі, страхані туды ўсіх без ніякай цэрамоніі. Падкурыўшы пасьля дымам і абмёўшы мокрым пяром пчол, ссунь памалюсеньку рамкі і прыцісьні затворам. Матку калі ухапіць удалося трэба прыспасобіць дзе небудзь паміж рамкамі, ці вузой, калі маткі не ухапіў, то высыпаць пчол з верху ня добра, лепш ужо прыставіць да затвору 8 цалёвую дошку і трохо падкурываючы і памагаючы мокрым пяром, упушчаць іх у сярэдзіну. Яны памашыруюць, як салдаты на вайну, а ты пільнуй, мо цяпер зловіш матку.

Абсаджэные на новым мейсцы пчолы зара бяруцца да работы; на заўтрае трэба паглядзець, ці усё ў парадку. Матку выпусьціш, калі ужо пчолы пачнуць цягнуць вашчыну. Калі-б на той час прыпала непагода, то рой трэба падкармліваць, аж пакуль ня здолеюць карміцца сваім промыслам.

Можэ часамі здарыцца так, што пчэляр абсадзіўшы рой на свежым мейсцы, зацірае сабе рукі і лічыць прышлые даходы, але калі за колькі дзён паглядзіць у вулей, а там ніводнай пчалінкі! Прычына гэтаго бывае, або ў тым, што вулей пахне чым колечы такім чаго пчолы ня любяць, або страцілі матку у часе вясельля, словам штось тут ды не так, як трэба.

Вось пчэляр павінен пры абсаджываньню зважаць на гэта і трохі пчолам дагадзіць. Дзеля пэўнейшаго прытыманьня пчол, ўстаў трохі у вулей пчалінай чэрвы.

*Г. Бярозко.*

---

# Кормные буракі.

Ведама, што цяпер скаціна, а найбольш дойные каровы, даець найлепшы даход. А на саломе і мякіне нельга пражывіць добра зімой скаціну, каб яна давала даход. Бяз бульбы, морквы, ці буракоў німа што і думаць аб тым, каб можна было добра прагадаваць скаціну. Вось дзеля гэтаго, каб было чым добра карміць зімой скот і трэба, як найбольш садзіць бульбы, а ешчэ лепш кормных буракоў, каторые даюць найбольшы ураджай. Дзе бульбы будзе 1000 п. з дзесяціны, там буракоў будземо мелі лёгка лічучы у двая больш.

Дзе не удаецца бульба, як на цяжкіх глiністых землях, там найлепей будуць расьці буракі. Толькі яны вымагаюць шмат больш рабочых рук, чым бульба.

Бурак любіць добра унавожэные землі. Гной лепей класьці з восені, а калі ўжо нельга зрабіць гэтай работы у восень, то вясной, але трэба старацца палажыць яго, як найраней, каб ён перагніў і не перэшкаджаў пры вырабцы зямлі.

Ніводная расьліна гэтак не аплаціць гною, як бурак. Дзеля гэтаго, апрача хлеўнаго гною можна падсыпаць і фабрычных гнаёў: да 20 пудоў супэрфосфату на дзесяціну і да 6 пуд. калійных солей.

Калі буракі узойдуць і будуць аполаты, то карысна пасыпаць іх чылійскай салетрай, каторай можна даваць да 12 пуд. на дзесяціну дзелючы на дзьве порціі.

Бурак любіць глубокую выробку зямлі. Дзеля гэтато дзе грунты глыбокіе там пускаюць плуг за плугам у адну баразну, або пашуць похавым плугам да $^1/_2$ аршына і глыбей. У нас пры неглыбокіх грунтах боязна вываpачываць дзікую зямлю на верх. Дзеля гэтаго добра пускаць за плугам паглыбіцель, катыры глыбока ўзрыхляе зямлю. Пад буракі лепей прыгатаваць поле з восені, двойчы перэараўшы і не чэпаць вясной. Але калі земля не саўсім добра выроблена, то трэба і вясной успахаць двойчы ці тройчы, дзеля таго, што буракі больш чым

бульба баяцца недавырабленай зямлі. Калі земля гатова, то трэба назначыць рады значнікам, ці парабіць склады сахой і садзіць буракі—зярном, ці расадай.

Зярном садзіць шмат меней работы, але іные гаспадары садзяць расаду. Садзячы зярном, трэба садзіць буракі густа— дзеля таго, што лягчэй павырываць лішніе, чым дасаджываць. Добра посьле пасадкі прыкачаць радкі валікам, ці пустой бочкай. Тагды земля прыліпае да зернятак, і хутчэй яны прарастаюць асабліва у сухую пагоду.

Расаду трэба палівацъ, а на тое каб лепш прыжывала, карысна адрываць кончыкі карэшка і лісьцёў, і карэньня перэд пасадкай мачыць ў кароўніку (кароўім гнаю). Посьле пасадкі буракоў, наступае самая цяжкая работа — апалываньне буракоў — без чаго увесь ураджай можэ прапасьці. Палоць трэба два, а то і тры разы.

Цяпер прыдуманы разные конные прылады — акучнікі, палольнікі, каторые вельмі памагаюць у рабоце. Апрача пеліва трэба прарываць буракі — спачатку гусьцей, а посьле і больш рэдка: да 6—8 цалёў каліва ад каліва.

Як толькі узойдуць буракі, то трэба пачаць іх акучываць. Акучываньне зводзіць зеліва і разрыхляе зямлю.

Буракі любяць акучываньне шмат больш, чым бульба. Акучываць іх трэба часьценька: раз на два тыдні. Раз меленька, другі раз глыбей—да 6—7 разоў за лета—нават тады, калі ярына ўжо пажата.

Капаюць буракі позна у восень. Карэньня ачышчаюць ад зямлі і пераховываюць у ямах, ці склепах, як бульбу, а з зялёнаго лісьця робяць так званы *сілос*, гэта значыць заквашываюць і посьле зімой і вясной даюць скаціне.

З гатункоў кормных буракоў асабліва распаўсюджэны: Энкдорфскіе, Мамут, Палуцукровые і др.

Трэба асьцерэгацца купляць насеньне у дробных крамнікоў, а лепей браць у сельска-гаспадарскіх складах, дзе ручаюцца за тавар. На 1 дзесяціну трэба 50 фунтоў насеньня, 1 пуд насеньня каштуець 16—18 руб.

**Э. Сакалоускі.**

# Конскі зуб.

Добры гаспадар павініан цяпер не спаць, а думаць як-бы павялічыць корму для сваей жывёлы. Апрача бульбы, буракоў, вікі, канюшыны пачынаюць цяпер усё болей сеяць „конскі зуб“,—адмена амэрыканскай кукурузы.

Конскі зуб садзіцца на зямлі прыгатаванай пад бульбу, або агароды. Ен вельмі любіць старые, угноеные і добра вырабленые кавалкі і прападае на запушчэных землях. Конскі зуб

садзіцца тагды, калі садзяць капусту, ці агуркі, на такіх-жэ лехах, як робяць пад капусту, або пад буракі.

Садзяць яго зёрнамі, якраз падобнымі да кукурузы, толькі перэд пасадкай на 1 — 2 дні намачываюць зерне ў вадзе, каб яно лягчэй прарастало. Пасаджэные радкі добра прыкачаць валікам, ці бочкай, трэба палоць конскі зуб пакуль ён малеңкі, каб не заглушыла яго трава. Пазьней ён гэтак разрасцецца, што выгубіць ўсе травы і дзеля гэтаго, конскі зуб найлепей ачышчае зямлю з усякаго зеліва. Акучываць конскі зуб трэба пакуль ён маленькі 1—2 цалі, ня болей, дзеля таго, што пазьней ён ламаўся-б.

Збіраюць конскі зуб восеньню, калі ужо німа другой зялёнай пашы. Калівы яго дарастаюць да сажня у вышку і да паўтара вершка у таўшчыну, праз што ён дае вельмі многа корму.

Калівы зрэзаюць сярпом і рэжуць на сечку. Паміма таўшчыны, гэта такі салодкі і смачны корм, што скаціна есць яго ахватней за ўсё. Конскі зуб стаіць на полі да першых сьнягоў і яго часцямі жнуць і скармліваюць. Калі начнуцца сьнягі, то яго жнуць у снапы і ставяць на дварэ ў мэтлікі, — мёрзлы рэжуць так сама на сечку і даюць скаціне .Трэба толькі асьцерэгацца даваць яго цельным каровам,—бо яны могуць скінуць ад мёрзлага корму.

Конскі зуб ніколі не удаецца высушыць, ды каб і высушыць то мала карысьці, бо быўбы тады ён залішне цьвёрды. Дзеля гэтаго, калі у восень яго нельга скарміць, то трэба сілосаваць, гэта значыць, заквасіць, як капусту. Сілосуюць, або у доўгіх ямах, або у звычайных капусных бочках, дзеля чаго рэжуць яго і паступаюць так, як пры заквасцы капусты.

Конскі зуб у нас ніколі не дасьпевае—часам перэд марозамі зьяўляюцца мяцёлкі, але самых зернят у нас ніколі не бывае. Дзеля гэтаго насеньне яго, што году выпісываюць с цёплых краёў і купіць яго можна толькі у вялікіх сельскагаспадарскіх складах. 1 пуд каштуець 2 р. На 1 дес. сеецца каля 5 пуд.

**Аграном.**

---

# Як даглядаць каня хвораго на золзы.

Золзы ці катар носа бываець найчасьцей пры зменнай пагодзе вясной і восеньню ад холаду, куру, дыму, цяжкаго духа у стайні. У хвараго каня цячэ з носа спачатку рэдкае як вада, а потым бела-рудое, як гной і засыхаець; ноздры робяцца чырвонымі і гарачымі, бываець вечэрамі і трасца у каня, часамі апухаюць „мышкі“ пад пашчэнкай, хварэюць вочы і у роце сохнець. Каню цяжка дыхаць. Найлепш адразу аддзяліць хво-

рых ад здаровых. Даваць зялены корм, альбо пускаюць на пашу, і як найбольш трымаць на чыстым паветры, толькі не на халоднай расе і па заходзі сонца, асьцерэгацца ставіць каня на ветры. Стайню добра вычысціць і выветрыць. Калі корму зяленаго німа даваць хоць 2 разы у дзень пойла з вотрыны, найлепш пшанічнай усыпаўшы простай, альбо глаубэравай солі, а хто мае то моркву, або буракі. Не паіць халоднай вадой; каб лягчэй было дыхаць, трэба у торбу на адну трэцю часьць насыпаць сеннай трухі апушчаюць яе у кіпяток, потым уліваюць у торбу 1 лыжку скіпідара, карболкі, альбо дзёгцю і скора надзеваюць каню на морду, каб ён гэтай парай дыхаў. Так рабіць 2—3 разы у дзень у цеплай стайні, каб холадам пасьля таго не хваціла.

**Лябедка Віл. г.** **Г. І.**

## Крывавая мача у кароу.

Крываўка у кароў бываець ад пашы на балотах і торфах, гдзе растуць горкіе, травы, а так сама пры пашы у лесі (ад смалістых пучкоў); ад раньняй пашы вясной, калі скот галодзен і прагавіта накідаецца на ўсякую траву. Ня трэба рана выганяць скаціну на траву, і надта згаладаўшую за зіму, а прэд полем мапней падкарміць. Хворую карову трэба карміць на нач сухім кормам, пойла з мукой, калі можна, то не пушчаць на пашу.

У нас каля Дзісны адзін гаспадар лячыў з карысьцью так: даваў сухага сена, апырсканаго сольлю, пойла; у гарцы вады запарыць шклянку льнанога семя, працадзіўшы усыпаць поў лыжкі галуну (квасцоў) і даваць 3—4 разы у дзень па бутэльцы, уліваючы асьцярожна і патроху у горла.

**Задзісенкавіч.**

## Проба гнаеньня канюшыны каінітам.

Шмат ёсць мейсц дзе гаспадару не стае сена. Як ні палепшывай сваей сенажаці, але, як яе мала то ўсё роўна сена ня хопіць, дзеля гэтаго трэба крыху свайго поля абярнуць пад сенажаць. Найпрасьцейшы спосаб абярнуць поле на сенажаць, гэта—сеяць канюшыну. Сеюць яе ці па аўсе, ячменю, ці вясной па жыце. Але і канюшына не на ўсякім мейсцы будзе добра радзіць. Яна вымагае, каб было у зямлі шмат солі—„*ка-*

*лія*". Дзе німа калія там вельмі памагае калійны навоз. Расце у нас канюшына добра, але на узгорках зазвычай бывае слабая. Вось я гэтые мейсцы пасыпаю каінітам (калійная соль). Мне хацелося даведацца ці ёсьць якая карысьць ад каініту і я на гэту спробу абабраў такое мейсцо на полі, дзе канюшына была не надта добрая — на ўзгорку. Тая канюшына была падсеяна у жыта вясной; як зжалі жыта, то восеньню у акцябрн адмерылі па 120 кв. сажнёў і на 120 кв. сажнях пасеялі 1 пуд каініту, а пабоч на 120 кв. сажнях нічога ня сеялі.

Каліж я пайшоў на прышлую вясну глядзець што вышла на тым полі, то ніякага знаку не было і ні перад Міколай, ні па Міколі, ні пад канец мая, аж кінуў хадзіць у той бок. Прыйшоў час касіць — я глядзь на тое поле, ажно здалеку відаць на тым кавалку дзе перад зімой каініт сеялі — была чорная пляма. Тут канюшына у трубу звілася, а побоч—стаячок. Гэту канюшыну на 120 сажнях і побоч на другіх 120 сажнях скасілі па асобку. С першага кавалка наклалі 5 коп, а з другога 3 капы. На гэтым не застанавіліся — копкі адважылі і аказалося, што с пад каініту накасілі $19^1/_2$ пудоў сена, а без каініту 10 пудоў. Дык 1 пуд каініту даў лішкі $9^1/_2$ пудоў сена. Палічыце цяпер: пуд гэтай солі каштуець 35 — 40 капеек, а $9^1/_2$ пудоў сена ужо мала калі па 20 кап. пуд лічыць, дасць 1 р. 90 к.,— значэ чыстага зыску—1 р. 50 к.

Пэрэлажыўшы гэта на дзесяціну атрымаем: каініту на дзесяціну $(20 \times 1) = 20$ пудоў гэто будзе 4 рублі, сена лішкі $(95 \times 20) = 190$ руб. Адлічыўшы 4 рублі, чыстага зыску 184 рублі.

Дзеля гэтага прыбытку варта папрацаваць. Але мая рада: трэба сперша папрабаваць на малым кавалку, каб даведацца, ці будзе на вашай зямлі якая карысьць ад каініту, бо на аднэй зямлі сеяць каініт карысна, а на другой не, гэта залежыць яд таго ці у глебі хапае запасу калія, ці не.

**А. С.**

*г. Радашковічы, Вілен. губ.*

---

# Шпакі у садах.

Нашы сады, асабліва старые запушчэные, часта хварэюць і не даюць даходу с тэй прычыны, што у іх завялося многа жукоў, мятлікоў і іх лярв і чэрву. Уся гэта кампанія мае зацішны прытулак ў шчэлках кары і ў дуплах старых дрэў адкуль выпаўзаючы аб'едае часам да чыста ўсю мякаць ліста, астаўляючы адны жылкі, а калі дзе часам лісьці і астаюцца цэлы, то гэто адбіваецца на фруктах: у завязь забіраецца якая небудзь пражора і тады фрукт не дасьпеўшы адваліваецца, а дасьпеўшы аказываецпа чарвівым і нікуды ня годным.

Змагацца з гэтымі пражорамі вельмі цяжка, яечкі іх часта саўсім нельга зніштожыць ніякімі апрысківаньнямі, так сама лярв цяжка павыбіраць з зямлі і абабраць рукамі гнёзды чарвей на ветках. Найлепшые памочнікі пры гэтай рабоце гэто *птушкі;* курэй, гусей, качак можна пускаць у сады і у гароды калі яны ешчэ толькі што ўскапаные, перэд пасевам і позна у восень, калі ужо усё сабрана, тады куры, гусі, качкі не нашкодзяць, а толькі прынясуць карысьць, капаючыся у зямлі і паедаючы розных жукоў і чарвей. Але на дрэвы, дзе вельмі многа гнездзіцца розных кузурак, нашы цяжкіе дамовые птахі не ўзлятуць, там мейсцо толькі лёгкім пташкам і вось дзеля гэтаго гаспадар павінен старацца, каб як можна болей завясьці у сваім садзе розных птушэк. Шпакоў людзі ужо з давён даўна прывучылі гнездзіцца каля хат, дзеля гэтаго устраіваюць ім гнёзды. Шпак гэто вельмі пражорлівая птушка, адно гняздо іх за лето зьедае мільёны розных чэрвякоў і дзеля гэтаго шпак робіць гаспадару вялікую карысьць. І трэба, каб гаспадары пастараліся нарабіць скрыначак на гнёзды шпакам і наразвешываць іх па дрэвах. Праўда, што сёлета ужо позна, бо усе птушкі агледзілі сабе мейсцы на гнёзды, але калі развесіць гэтай вясны гнёзды, то птушкі за лета прыгледзяцца да іх і на другую вясну ужо напэўна займуць у іх кватэру на свае гнёзды.



Падаемо тут рысунак гнёзда для шпакоў, яго зьбіваюць з дасок у вышыню павінна быць 11 — 12 цалёў, шырыня ў сярэдзіне $4^1/_2$ цалі, дзірка круглая $1^3/_4$ — 2 цалёў. Вешаць трэба не ніжэй, як паўтара сажня і не вышэй, як 4 сажні ад зямлі.

Апрача шпакоў можна прывучыць жыць у садзе сініц, малінавак і другіх дробных пташак. Гнёзды для іх робяцца такіе самые, як і для шпакоў толькі меньшые: вышынёй 8—$8^1/_2$ цалёў, у сярэдзіне ў шырыню 3 цалі, дзірка 1—$1^1/_4$ цаля.

Л.

# Лісты агранома.

Вось ужо два месяцы, як я цягаюся па мінскай губэрні і усё не магу прывыкнуць ні да маленькіх калёсак беларуса ні да страшэнна тошчай яго скацінкі.

І было-б дзіўна калі-б хто бачучы маленькіе калёскі з недужым конікам чэкаў-бы акуратнаго, багатаго жыцьця беларуса. Кожная вёска, кожнае поле, кожны беларус, усё гаворыць аб яго беднаце. Хто-б мог падумаць, паверыць, што мінская карова, як і шофтгордскі англіцкі бык — гэто патомкі адных і тых-жэ прашчуроў!

Балоты і пяскі... рэдка спатыкаюцца падгліністые землі. Найбольш пяскоў.

Раблю разрэзы грунтаў:—на рознай глыбіне ляжыць гліна, каторая і служыць прычынай балот. Балоты выкарыстываюць як пасьбішчы і сенакосы. Многа лугоў; лепшымі лічацца прырэчные, асабліва пры рэцэ Бярэзіне. Кожны прырэчны луг можна раздзяліць на дзьве часьці: бліжэйшую да рэкі і адлеглую.

Адлеглые лугі бываюць зазвычай забалочэнымі (пад грун тавым слоем гліна), кіслымі, торфяністымі; тады, як бліжэйшые да рэк можна назваць вільготнымі і добраго гатунку.

Асобеннасць рэк мінскай губ. такая, што самые берагі рэк вышэй чым далейшая мейсцовасць; вада ня можэ сцячы вясной назад, вось гэтым і аб'ясьняецца забалочэннасць лугоў.

Усе селянскіе лугі і пожні папсаваны паствай скаціны, каторы робіць на пожнях і лугах выбоіны і яны робяцца курганястымі: ранняй вясной і познай восеньню, калі земля размякшы ямкі робяцца лёгка.

Балоты! — Махавые балоты выкарыстываюць селяне, як пасьбішчы; асабліва тые, дзе да сосны прымешываецца бяроза: на тысячах купін растуць худые траўкі і селяне пасуць там скаціну. І глядзя на гэтые балоты, асабліва на тые, дзе расьце крывая сосна, могх, багульнік і невялікае число мала пажыўпай траўкі, а так сама на балотах с крывой соснай і бярозай, дзе расьце травы крыху больш, паняволі думаеш, калі яны пападуцца ў умелые рукі, калі іх абсушаць канавамі, пройдуць па іх лугавые бароны, паложаць на іх гнаі і абсеюць травамі, калі заместа балота будуць тут лугі.

Прыродные і гістарычные варункі мінскай губэрні нельга назваць спрыяючымі; прырода бедная, толькі пры помачы знаньня паложэная тут праца ня будзе напраснай.

Мне прышлося быць сьведкай такіх абразкоў: саўсім імпэтам селянін, дзераўлянай трамбоўкай, трамбуе купіны; ён пераконан, што папраўляе сваю сенажаць. Замест таго, каб зрэзаць купіны і прабаранаваць сенажаць, каб выдзерці мох і дапусьціць наветрэ—ён яго трамбуе...

У цяперэшні час селяне вядуць ешчэ натуральную гаспадарку; абходзяцца малым, кормяцца скупа, часта нехватае

хлеба, саланіна заменяе мяса; найбольш зьедаюць бульбы. Глаўны прадукт прадажы на рынак—гэта скот. Хатніх промыслоў німа. Толькі сплаў лесу вясной дае скупы заработак, дзякуючы эксплуатацыі іх.

**Аграном з Беларусі.**

# ГРАД.

Цяпер, калі ўсё багацьце хлебароба пад голым небам — на полі, з якім-жэ страхам кожны гаспадар спатыкае, так часта пажаданую сабе, хмарку, каторая не раз неўспадзеўкі выпоўзае з за горкі, ці лесу. Сыпнуўшы ціхім, роўненькім, цёплым дожджыкам, хмарка такая іншым разам у вадзін год гаспадара падправіць; але бывае хмарка коціцца, здаецца, невялічкім клубочкам, налетае страшэннай навальніцай, сячэ і рэжэ халоднымі, войстрымі ледзякамі, — момэнт — і ўся праца, ўся надзея, ўсё багацьце гаспадара гіне нашчэнт.

Град — страшэнны, аграмадны вораг хлебароба, і ваеваць з ім людзі ешчэ і дагэтуль добра і пэўна не навучыліся.

Праўда, рабілі ўжо і робяць цяпер пробы ў Італіі, а асабліва у Францііі разбіваць градавые хмары бомбамі, стрэляючы з гарматоў.

С часам, разумеецца, навука знайдзе спосабы ад граду і дай Божэ бардзей прыждаць таго часу, калі гэта чартоўская выдумка — гармата стане служыць не дзеля згубы, а толькі дзеля карысьці людзей.

Чыя змога, можна, вядомая рэч, страхаваць сваё дабро ад граду, як страхуюць будынкі ад пажароў, і гэта вельмі добрая рэч, але дзеля тых, як казаў, чыя змога. Гэткіе страхавые таварыствы ёсць скрозь па гарадох. Бяднейшым-жэ, як і заўсёды, прыходзіцца з усімі бедамі ваеваць толькі сваім мазалём.

Шкоды ад градоў бываюць розные: большые і меньшы і ў розным часе; павэдлуг гэтаго трэба прыстасовываць і разные рады для кожнай збажыны.

**Жыто**, пабітае градам пакуль ешчэ ня выплыве трэба скасіць; калі-ж гэта нешчасьце захопе жыта ў красе — німа рады: скасіць і поле можна араць. Калі град пабье налітае жыта, а каласоў у зямлю не паўбівае, то ешчэ можна спадзевацца такое - сякое зярнё сабраць.

**Авес**, калі пабье град, пакуль не паказаліся ешчэ веткі — трэба скасіць, і з яго ешчэ можна прыждаць карысьці; як-жэ толькі веткі высыпаліся, дый не аткрасаваў сусім ешчэ авёс, а град яго зьбіў, німа рады ніякай—скасіць на корм, а калі часу хапае, пасеяць ешчэ другі раз. Калі-ж пабье град наліўшыйся авёс, чэпаць ня трэба, ешчэ надзея ёсць; іншым зноў разам пройдзе град, як авёс добра ўжо зацецеравеўшы, або і надсьпеўшы, то тут ўжо трэба самому гаспадару зважаць, як лепей зрабіць.

Калі град выбіў зярнё зрэдзь, то пакінуць, ніхай даходзе, калі-ж усё лепшае зярнё высыпалося, дый на зямлі яго гусьцей, чым сеецца, то ужо лепей скасіць на корм (добрая будзе сечка), а поле зараз-жэ загараць і забаранаваць. Калі авёс быў ранны, то ён узойдзе і будзе добрая паша, а часам ешчэ можна і пакасіць.

**Ячмень**, пакуль не закрасаваў, а град яго зьабіў, смела можна скасіць,—можэ ешчэ справіцца; калі град пабье пасьля красы, — пакінуць; хоць горшае, але зярнё ешчэ можэ даць, але калі град сабье каласы, дый паўбівае іх у зямлю, разумеецца, рады німа: скасіць на корм, а поле перасеяць.

**Пшаніца**, калі ешчэ ня выкаласілася, а град паломе толькі зьверху салому (вышэй коласа, каторы у пшаніцы сядзіць глыбока), то і скасіць салому пад коласам — ніжэй злома. Калі-ж паламана салома ніжэй коласа, то скасіць зусім, а пшаніца можэ ешчэ узрасьці. Як-же толькі пшаніца пачынае каласаваць, а град пабье толькі вярхі яе саломы (вышэй коласа) — тады не чэпаць: колас выбьецца з боку. Калі-ж град пабье каласуючую пшаніцу ніжэй коласа, то ўжо прапала: трэба скасіць.

З усей душы жычу маім братом - хлебаробам, каб з гэтых рад карыстаць ім ніколі не давялося.

**Н. Вілецкі.**

# Мінская пробная балотная станція.

Грошы на гэту першую у Расею станцію даець мінскае земства і дэпартамэнт земледзелія папалам (30000 р.). Вядуць пробы магістр ботанікі Флероў і аграном Кузнецкі.

Станція хочэ выпрацаваць і выпрабаваць пэўные способы перэварачываць болотные абшары на карысные землеробу сенакосы і палі. Лабараторыя і музэй станціі у Мінску, Александроўская в. д. 36. Кожны можэ яе аглядаць, а пробная балотная гаспадарка вядзецца на 260 дзесяцінах каля станціі Лахва Палес. ж. д. (каля Лунінца). Над культурай балот працуець ешчэ казённы аграном Чорны (Мінск, Крэшчэнская 25) і 9 майстроў балотных.

Пры станціі адкрываюцца курсы (2 месяцы па кнігах і 1 месяц практыкі); на курсы прымаюцца хлопцы, каторые прайшлі ніжэйшую сельска-гаспадарскую школу.

Районны спэціаліст Чорны робіць дарма пробы на балотах у маёнтках, а дэпартамэнт земледзелія дарма даець насеньня і штучные гнаі.

Калі на балоці ці мокрым сенакосе ёсць дзірван, то робяць так: асушаюць канавамі, баранують лугавой бараной Рэндаля (талерачная), сыпяць парашкі тамасоўку, каініт, падсеваюць травы.

Калі балота з белаго моху, то трэба сыпаць вапны 100—200 пудоў на дзесяціну.

Станція ешчэ маладая толькі пачынаець пробы, але мы радзілі працоўнікам добра аглядзець і апісаць усе пробы, што

зроблены і ужо выпрактыкаваны гаспадарамі. Працоўнікі станціі казалі, што гэта яны і зробяць і чытачы „Сахі“ можэ напішуць да рэдакціі, гдзе зроблены такіе пробы і як удаліся.

Пробная станція выдаець так сама журнал „Болотоведеніе“.

**А. У.**

**Рэдакція „Сахі“** зварачываецца да усіх сельска-гаспадарскіх таварыств з просьбай прыслаць адчоты за астатні год, спіс членоў, заведамляць раней, гдзе і якіе будуць выстаўкі. Гэта патрэбна для карысьці сельскай гаспадаркі нашаго краю, саміх таварыств і каб усё, што гдзе робіцца у Беларусі, шырока расхадзілося па краю.



Рэдактар-Выдавец **А. Уласоў**. Друкарня „Зніч“ Вільня.

## Кнігі прысланые у рэдакцію для прагляду.

1) № 1. 1912 г. Болотовѣденіе, вѣстник минской опытной болотной станціи под редакціей директора станціи А. Ѳ. Флерова.

Паміж цікавымі стацьцямі у гэтай першай працы малодой ешчэ станціі можэм адмеціць: Аб саставе балотных грунтов Мінскай губ. Флерова і Тюленева, цяперэшнее палажэньне торфянаго промысла Меньшыкова і Культура молодых балот у Даніі Кузнецкаго.

Надта важна, каб у другой кніжцы аграномы станціі апісалі бы тые пробы, каторые зроблены у нашым краю у рожных маёнтках і у некаторых мейсцах даюць ужо карысьць.

2) Чѣм повысить урожай на полях нечерноземной полосы Россіи. Об искусственных удобреніях и золѣ. Ученаго агронома Чернаго изд. Г. У. З. и З. С.-П.Б. 1912 г.

Кніга, у каторай акуратне тлумачыцца якіе парашкі, як робяць на расьліны, залежна ад глебы; да кнігі прыложены табліцы, каторые памагаюць разабраць, чым гнаіць пры усякіх варунках.

3) А. И. Скворцов. Хозяйственные районы Европейской Россіи.

4) А. Н. Челинцев. Сельско-хозяйственные районы Европейской Россіи, как стадіи сельско-хозяйственной эволюціи и культурный уровень сельскаго хозяйства в них.

Гэтые 2 кнігі прафэсороў Новоалександроўскаго Інстытута сельскай гаспадаркі павінен прачытаць кожны думаючы гаспадар, каб зразумець, як гдзе высока стаіць гаспадарка і як яе трэба кіраваць. Да гэтых кніг ешчэ некалі вернемся.